**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.21, 17.34, 11.13;
Віцебск — 6.14, 17.20, 11.06;
Магілёў — 6.10, 17.23, 11.13;
Гомель — 6.08, 17.19, 11.11;
Гродна — 6.38, 17.47, 11.09;
Брэст — 6.35, 17.51, 11.16.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 3 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ:**
Фёклы, Нікандра, Галакціёна, Уладзіслава

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

7 КАСТРЫЧНІКА 1992 г.
серада, № 200 (21978)

## РОЗГАЛАС

### САЛЬДА СТАНОЎЧАЕ. АЛЕ ЯКОЙ ЦАНОЙ?

Паводле даных Камітэта па знешніх эканамічных сувязях Рэспублікі Беларусь, баланс знешняга гандлю рэспублікі, які многія гады быў адмоўным, сёння не толькі выраўнаваўся, але экспарт перавышае імпарт на 200 мільёнаў долараў. Нягледзячы на гэтую прывабную лічбу, падстаў для аптымізму няма, бо дасягнута яна не ў выніку росту аб'ёмаў рэалізацыі прадукцыі на сусветным рынку, а толькі за кошт скарачэння закупак за мяжой тавараў народнага спажывання і неабходных для народнай гаспадаркі матэрыялаў.

### ПАТРАБАВАННІ ЗАДАВОЛЕНЫ

**Адміністрацыя Мінскага трактарнага завода, азнаёміўшыся з патрабаваннямі прафсаюзнага камітэта прадпрыемства, прыняла пастанову аб павышэнні заработнай платы ўсім работнікам беларускага трактарабудаўнічага аб'яднання. З 1 кастрычніка тут павялічаны тарыфныя стаўкі і аклады ў сярэднім на 30 працэнтаў. Акрамя таго, павялічаны выплаты на абеды, якія цяпер складаюць 20 рублёў за кожны рабочы дзень.**

Алег ПРАЦЬКО.

### Загінуў не ад ран, а ад сабачага жыцця...

**Праз паўстагоддзя пасля гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці рашыўся на самагубства абаронца цытадэлі над Бугам. Былы курсант палкавой школы 44-га стралковага палка 2-га ўзвода Цімерэн Кабулавіч Зіматаў жыў у Сібіры, але ў апошнія гады часта прыязджаў у Брэст. Тут жа на мілай яго сэрцу зямлі кінуўся пад поезд. Як стала вядома з перадсмяротнага пісьма ветэрана, гэта быў акт пратэсту супраць дзяржаўнай палітыкі ўрада Расіі Б. Ельцына. «Калі б тады памёр ад ран, я б ведаў — загінуў за Радзіму, а вось цяпер ад сабачага жыцця. Няхай так і напішуць на магілцы...»**

**Работнікі мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць» выканалі апошнюю волю байца гарнізона — ён пахаваны на тэрыторыі цытадэлі над Бугам.**

Таццяна ГУСЕВА. (РІД).

### Эфір для апазіцыі: дамоўленасці не было

Некалькі дзён гэтая тэма не сыходзіць са старонак многіх газет: прадстаўнікі апазіцыі БНФ абвінавачваюць кіраўніцтва Міністэрства інфармацыі Беларусі і дзяржаўнай нацыянальнай тэлерадыёкампаніі ў парушэнні папярэдняй дамоўленасці аб прадастаўленні Народнаму фронту стабільнага эфірнага часу на тэлебачанні і радыё. У суботу «Звязда» змясціла думку наконт узнікшай праблемы каардынатара парламенцкай апазіцыі Сяргея Навумчыка. Сёння праясняе сітуацыю міністр інфармацыі Беларусі Анатоль Бутэвіч.

— Асабіста я не вёў ні з кім размовы аб прадастаўленні эфіру апазіцыі Вярхоўнага Савета, бо ў той час знаходзіўся ў адпачынку,— сказаў Анатоль Іванавіч.— Гэтым займаўся намеснік міністра І. Карэнда. Але сёння я ўпэўнена кажу: ніякай папярэдняй дамоўленасці аб выдзяленні пастаяннага эфірнага часу для БНФ не было. Вялася толькі размова аб тым, што трэба адпрацаваць метады і механізм выхаду ў эфір. Не больш. Мы лічым, што гэтае пытанне ўзнімаць сёння нясвоечасова. Колькасць толькі афіцыяльна зарэгістраваных палітычных партый і рухаў на Беларусі набліжаецца да дзесяці. Наша тэлебачанне мае зараз толькі 4 гадзіны арыгінальнага вяшчання ў дзень (28—у тыдзень), што вельмі мала. І калі мы станем дзяліць яго на патрэбы, скажам, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі, Сялянскай партыі, ПКБ і г. д., то што ж атрымаецца? Яны ж таксама стануць патрабаваць для сябе эфір, і нават звароты ўжо былі. Між тым прадстаўнікі апазіцыі не раз мелі магчымасць удзельнічаць у розных перадачах на радыё і тэлебачанні і нават у прамым эфіры, гэтым пакарыстаўся ў прыватнасці і З. Пазьняк, апошні раз — напярэдадні святкавання Дня незалежнасці.

Я хачу падкрэсліць, адзначыў міністр інфармацыі Беларусі, што ў праве на эфір апазіцыі не адмоўлена. Ёсць неабходнасць стварэння дыскусійнага клуба, магчыма ў прамым эфіры, каб прадстаўнікі розных палітычных партый, рухаў мелі магчымасць прыйсці, выказаць свае меркаванні, паспрачацца. Галоўнае сёння — не дапусціць канфлікту ў грамадстве. Усе мы павінны працаваць дзеля кансалідацыі.

Анатоль СЛАНЕЎСКІ.

### У КАПЫЛІ АРЫЕНТУЮЦЦА НА «ЗВЯЗДУ»

Калі казаць шчыра, бываюць прыемныя моманты ў наш няпросты і супярэчлівы час і ў нас, супрацоўнікаў «Звязды». Адзін з іх меў месца ўчора. З Капыля, што на Міншчыне, патэлефанаваў рэдактар раённай газеты «Слава працы», наш даўні сябар і аўтар Іван Пракарына. Радасным голасам, поўным павагі да нас, Іван Іванавіч паведаміў, што ягоныя землякі ў гэтыя дні надзвычай актыўна і ахвотна падпісваюцца не толькі на «раёнку», а і на «Звязду». І прывёў пры гэтым лічбы, атрыманыя ў раённым агенцтве «Саюздрук» і пошце: калі зараз падпісчыкаў адзінай штодзённай беларускамоўнай рэспубліканскай газеты на Капыльшчыне 1202 чалавекі, дык на наступны, 1993 год, «Звязду» выпісалі ўжо 1366 жыхароў.

Што ж: дзякуй за давер, нашы старыя і новыя сябры! Мы вас не падвядзём!

Анатоль МЯСНІКОЎ,
рэдактар аддзела міжнацыянальных адносін і міжнароднага жыцця «Звязды».




Мал. В. ДУБОВІКА.

### ДЖЭНТЛЬМЕНЫ, ЎВАГА!

**БРЭСТ. (Ю. Фёдарава). У горадзе будзе адкрыты англійскі культурны цэнтр. Ён ствараецца па ініцыятыве і пры актыўным удзеле амерыканскай сям'і — мужа і жонкі Райсаў. Радаслоўныя лініі Вольгі вядуць у Брэст. Тут жылі яе продкі.**

**Для пачатку сям'я прывезла ў Брэст сур'ёзную бібліятэку англійскіх і амерыканскіх пісьменнікаў. Цяпер кнігі з дапамогай студэнтаў англійскага аддзялення філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута класіфікуюцца і апрацоўваюцца. Ствараецца каталог будучай бібліятэкі.**

### ГОСЦІ БЫЛІ АГРЭСІЎНЫМІ...

Адбыўся 13-ы тур другога чэмпіянату рэспублікі па футболу. Ніякіх нечаканасцей не адбылося, за выключэннем хіба што гульні ў Мінску, дзе сталічная «Беларусь» на сваім полі прайграла дынамаўцам Брэста з лікам 1:2.

Лідэр першынства — сталічнае «Дынама» — гэты тур прапусціла. Але гэта ніяк не адбілася на яго турнірным становішчы.

Наогул, госці на гэты раз былі вельмі агрэсіўнымі і чатыры разы прымушалі гаспадароў капітуляваць. «Днепр» правёў тры безадказныя мячы ў вароты мінскіх тарпедаўцаў, «Хімік» столькі ж мячоў забіў «Лакаматыву», які здолеў толькі аднойчы паразіць вароты гасцей, а бабруйскі «Трактар» двойчы забіў «Гомсельмашу». Адзін матч удалося выйграць гаспадарам: «Шахцёр» абыграў «Металург» з лікам 1:0, а астатнія матчы закончыліся з нічыйным вынікам.

«БелАЗ» — «Тарпеда» (Мг.)—2:2.
«Будаўнік» — «КІМ» — 1:1.
«Абутнік» — «Ведрыч» — 1:1.

### БЕЛАРУСЫ— «НА ЎРА»

**У горадзе Брухзаль, што на Нямеччыне, прайшоў міжнародны фестываль «Еўрапейскія музычныя сустрэчы». На гэты раз знакаміты фэст наведала шматлікая дэлегацыя з Беларусі ў саставе народнага ансамбля танца «Праліца» Гродзенскага вытворчага прадзільна-нітачнага аб'яднання і хору Мінскага мастацкага вучылішча. Праграма нашых выканаўцаў сярод гаспадароў і гасцей фестывалю прайшла «на ўра».**

### АБО «ЗВЯЗДА», АБО «ПАГОНЯ»?

Незвычайны і даволі дзіўны пратэст разгледзеў пазаўчора Мінскі гарадскі суд.

Мінчанін Аляксандр Бартановіч патрабаваў, каб гарадская феміда апратэставала рашэнне нарсуда Савецкага раёна сталіцы, які адмовіўся прыняць яго іскавую заяву да газеты «Звязда».

А сутнасць прэтэнзіі пана Бартановіча да старэйшай беларускай газеты такая. На думку істца, газета павінна неадкладна зняць са сваёй «шапкі» герб «Пагоня», паколькі гэтая сімволіка, што выкарыстоўвалася ў гады Вялікай Айчыннай вайны здраднікамі Радзімы, быццам бы апаганьвае памяць мінскіх падпольшчыкаў, якія выдавалі і распаўсюджвалі «Звязду». «А калі калектыву рэдакцыі такая дарагая «Пагоня», то няхай ён памяняе назву газеты», — заявіў у тэлефоннай размове з карэспандэнтам Аляксандр Бартановіч. Зрэшты, гарадскі суд пакінуў без змянення рашэнне сваіх калег.

Мікалай ДЗЯБЕЛА.

### ДПА ПАВЕДАМЛЯЕ

**Германскае інфармацыйнае агенцтва ДПА не мае патрэбы ў асаблівай рэкламе. Яе інфармацыі ў галіне палітыкі, эканомікі, сацыяльнай сферы, правоў чалавека, спорту і навукі шырока скарыстоўваюцца самымі рознымі тэле- і радыёкампаніямі, а таксама сусветна вядомымі газетамі. Тым больш, нам прыемна ўсведамляць, што агенцтва ДПА згадзілася паставіць сваю інфармацыю для «Звязды» бясплатна, з павагай і разуменнем ставячыся да старэйшай беларускай газеты.**

#### УСХОД ПАВІНЕН ПАДЦЯГВАЦЦА

Толькі працяглая фінансавая падтрымка можа ўратаваць былую адміністрацыйную эканамічную сістэму Усходняй Германіі. Да 2000 года апошняя павінна атрымаць ад Заходняй Германіі 140 біліёнаў марак. Як заявіў канцлер Коль, гэта дапамога будзе пашырацца, але «усходнія палітыкі і эканамісты павінны самі шукаць шляхі аптымальнага развіцця сваёй эканомікі».

#### А ЯПОНЦЫ НЕ АДМОВІЛІСЯ

У той час, як на многіх нашых прадпрыемствах адмовіліся ад вытворчай гімнастыкі, японскія фірмы актыўна ўкараняюць яе у вытворчасць. У прыватнасці, 70 тысяч працоўных вядомай фірмы «Ляцусіта Электрык Індастрыял» кожны дзень пачынаюць з 20-хвіліннага фізічнага рытуала, па-нашаму вольных практыкаванняў. Свае поспехі фірма тлумачыць і гэтым своеасаблівым усеагульным трэнінгам.

*С. ШУШКЕВІЧ у час сустрэчы з выбаршчыкамі:*

## Пра апарат, які «пухне», мазгі, якім лепш праветрывацца, чым гніць, увогуле—пра наша жыццё

**Пазаўчора Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч сустрэўся са сваімі выбаршчыкамі з мінскага акцыянернага таварыства «Амкадор», якое таксама вядома як аб'яднанне «Дармаш».**

У невялікім выступленні ён коратка ахарактарызаваў палітычную і эканамічную абстаноўку на Беларусі. У прыватнасці, закранаючы актуальнае цяпер **пытанне рэферэндуму,** ён адзначыў, што праводзіць яго неабходна, інакш гэта будзе парушэннем дэмакратыі. Але які характар павінны мець яго вынікі — дарадчы ці абавязковы? Не менш надзённае пытанне, што датычыць так званай **адзінай рублёвай зоны.** Логіка падзей такая, што нас як бы падштурхоўваюць да ўвядзення ўласнай валюты. Падкрэслівалася таксама: кажуць, цяпер жыць стала горш, але назад шляху няма. Гэта значыць, мы не адступімся ад рэфармавання эканомікі і ўсяго нашага жыцця, і такі дзяржаўны аптымізм, вядома, імпануе.

А потым былі самыя разнастайныя пытанні, якія ўвогуле датычылі нашага штодзённага жыцця. Прычым, думаецца, выбаршчыкі атрымалі даволі шчырыя адказы на іх. Самі ж пытанні можна раздзяліць на тры групы: сацыяльна-эканамічнага характару, якія, напэўна, пераважалі; палітычнага і на вайсковую тэматыку. Ужо першае з іх несла на сабе адбітак нашага сённяшняга неспакойнага жыцця: яно датычыла вырашэння **праблемы забеспячэння бензінам і цэн на яго.** С. Шушкевіч, у прыватнасці, зазначыў, што асабіста ён здзіўляецца, чаму яшчэ не павысілі цэны на бензін у нас, калі ўсе вакол павышаюць? Ад гэтага рэспубліка ў цэлым толькі страчвае. І сапраўды, учарашнія партнёры па Саюзу, якія, па сутнасці, вядуць эканамічную вайну паміж сабой, менш за ўсё дбаюць пра «бліжніх».

Прагучала пытанне, **ці будуць цэны ўвогуле пад кантролем,** яны ж пастаянна растуць?.. Не ведаю, наколькі задаволіў аўтара пытання адказ наконт залежнасці цаны ад затрат, попыту і прапановы, але перакананы, што з падобнымі пытаннямі ў рынак ісці нельга. Варта памятаць, што менавіта свабодай цаны вызначаецца свабода вытворцы. Кантроль над ёй — гэта кантроль і над ім. Іншая справа: у нас не задзейнічаны ўсе атрыбуты рынку, вось таму цэны і маюць цяпер толькі адну ўласцівасць, якая, вядома ж, не даспадобы нам, — павышацца. Кантроль над цаной і манаполія ў любой форме — гэта не лепшае выйсце, што, дарэчы, паказвае і цяперашняя сітуацыя з айчыннымі тытунёвымі вырабамі — яны проста зніклі. Між іншым, спікер беларускага парламента зазначыў наконт нядаўняга адпаведнага рашэння ўрада, што яно неадназначнае. Ну, а што рабіць цяпер курцам? Хіба што сапраўды прыслухацца да парады кінуць курыць...

Ізноў паўстала пытанне наконт «рубля». Адказ: нам у такім выпадку будзе цяжка. Але мы не змірымся і з тым, калі рублёвая зона будзе фікцыяй.

**Як забяспечыць сябе ўласнымі энергарэсурсамі? Ці будуць у нас свае вугаль і нафта?**

Праводзіцца разведка, пры гэтым на свой вугаль разлічваць, відаць, не трэба, яго зусім мала. Наш выхад, няйначай, усё ж у ядзернай энергетыцы. «Я буду несумленным чалавекам, — ужо далей зазначыў С. Шушкевіч, — калі скажу, што мы можам без яе абысціся. Хоць жах ад яе — вялікі...»

**Чаму недастатковыя меры па абароне спажывецкага рынку? Куды нам ісці — на Захад ці на Усход?..**

Падобныя меры існуюць, хоць і не ўсё тут без праблем. Але найбольш важна захоўваць ва ўсім разумны баланс, прымяняць тыя ж меры ў спалучэнні з мытным кантролем і мытным падаткам.

Гэтак жа разумна, памяркоўна ставіцца і да таго, куды нам ісці. Не трэба проціпастаўляць Захад і Усход, Поўнач і Поўдзень, не варта ў гэтых адносінах размяркоўваць прыярытэты.

Між іншым трэба тут дадаць: імкненне «заходнікаў» зразумелае, але, напэўна, найперш трэба думаць аб тым, з чым канкрэтна ісці нам на Захад, з якой прадукцыяй. Думаецца, што яшчэ вельмі доўгі час, а можа і пастаянна, наш асноўны рынак будзе на Усходзе — хочацца гэтага каму ці не.

**Чаму не ўздымаецца сельская гаспадарка? Адносіны да калгасаў?**

Ніхто не можа палепшыць становішча вяскоўцаў, акрамя іх саміх, дзяржава павінна толькі стварыць для гэтага адпаведныя ўмовы. Увогуле ж, у вёсцы — ажыўленне, проста не ўсе праблемы (гэта ў першую чаргу датычыць запушчанасці быту, дарог) адразу вырашаюцца.

Адносіны да калгаса? Станоўчыя, і найперш да іх працаўнікоў. Хто яшчэ так шмат і так напружана працаваў і так мала меў? Ніякай пагрозы калгасам няма. Але няма і ніякай санацыі калгасаў, няма ніякага банкруцтва, ніводзін не разваліўся — хоць у многіх з іх справы ідуць дрэнна, аднак усіх падтрымліваюць. Увогуле ж, павінен быць плюралізм розных формаў гаспадарання, якога па сутнасці таксама няма.

**Адносіны да БНФ?**

Што датычыць станаўлення беларускасці, нацыянальнай самасвядомасці — заслугі БНФ у гэтай справе неаспрэчныя. Але праяўляецца і неабальшавіцкі падыход. Можа, гэта не лінія БНФ, а яго кіраўніцтва?

Спікер парламента таксама не пагадзіўся з тым, што, маўляў, акрамя БНФ, няма каму і думаць, і працаваць па-дзяржаўнаму.

**Ці задавальняе сучасны Саўмін?**

Не. Непакоіць, што ствараюцца шматлікія ўладныя структуры, апарат «пухне» (між іншым, мы становімся сведкамі сапраўды нежартоўнага разбухання апарату нашай выканаўчай улады, што кладзецца цяжкім грузам на бюджэт, на ўсіх нас. Хоць пастаянна гаворыцца наконт скарачэнняў і эканоміі сродкаў)...

**Знаходжанне ў нас расійскіх войск,** калі яны будуць выведзены? Чаму, які працэнт **войск з краін Усходняй Еўропы** выводзіцца ў Беларусь? Пры гэтым ваеннаслужачым трэба потым плаціць пенсіі..

Ёсць дамоўленасць, што войскі з тэрыторыі Беларусі будуць выведзены на працягу 7 гадоў. Аднак гэта крайні тэрмін. С. Шушкевіч спадзяецца, што будзе прынята пагадненне наконт іх вываду да пачатку 1995 года. У Беларусь жа выводзяцца тыя ваеннаслужачыя, для якіх ужо будуюцца ваенныя гарадкі.

Пенсіі ваеннаслужачым будзем плаціць, яны сваё аддалі.

Мы маглі б дэнансаваць адпаведныя пагадненні, якія былі заключаны ў той час, калі існаваў Саюз. Але выклічам абурэнне тых жа ваеннаслужачых, ускладнім адносіны з Германіяй, паставім сябе ў нязручнае становішча ў міжнародным плане. Ці варта гэта рабіць?

А яшчэ было шмат іншых пытанняў, «вялікіх» і «малых». Наконт адносін да нашых суайчыннікаў за мяжой і сувязей з імі, выезду з Беларусі «мазгоў», якім, дарэчы, лепш праветрыцца, чым гніць у нас (вядома, калі яны не знаходзяць сабе прымянення), і наконт затрымкі ацяпляльнага сезона. Гаварылася на сустрэчы і аб нелюбімых многімі з нас гандлярах, але менавіта «гандаль рухае эканоміку», аб значным расслаенні ў грамадстве па даходах, але мы павінны ўсвядоміць, што цяпер ранейшай роўнасці не будзе. Іншая справа: трэба адрозніваць, калі чалавек будуе свой дабрабыт, дзякуючы таленту, а калі — дзякуючы махінацыям, і яго трэба адпраўляць да пракурора...

У заключэнне Старшыня беларускага парламента зазначыў, што ён чакаў рэзкіх выпадаў у свой адрас і здзіўлены той цярпімасцю, якая была праяўлена...

Што ж, значыць, нягледзячы на цяжкасці, яшчэ існуе крыху даверу ў людзей да нашых уладных структур. Толькі ж запас яго, відаць, невялікі. Гэта трэба ўлічваць і таму ж парламенту, і яго Старшыні ў іх далейшай дзейнасці.

Кар. «Звязды».

## У ЗОНЕ АДБУДУЦЦА ЗМЕНЫ

Шэсць з палавінай гадоў ідзе нябачная вайна паміж рознымі навуковымі школамі, медыкамі, міністрамі, палітыкамі. Пункты гледжання на тое, што можна і чаго нельга ў чарнобыльскай зоне, нярэдка настолькі палярныя, што ў радавых жыхароў гэтых месц галава ідзе кругам. І тым не менш, яны тут жывуць, вырошчваюць збожжа, пасуць жывёлу і, што самае галоўнае, — працягваюць род чалавечы. Аднак якім будзе гэты род наш нават не праз стагоддзі, а ўсяго толькі праз дзесяцігоддзі, — сёння не можа сказаць ніхто.

Міністр аховы здароўя рэспублікі Васіль Казакоў

(Заканчэнне на 3-й стар.).

СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»

## «Пакуль не падымем агульны ўзровень развіцця, нічога не атрымаецца»

**Гутарка з начальнікам Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Георгіем ТРАЯНАМ**

**— Георгій Іванавіч, пасля заметкі агенцтва «БЕЛІНФАРМ» «Між іншым», надрукаванай нядаўна ў «Звяздзе», у рэдакцыю прыйшло шмат лістоў з пытаннямі, якія датычаць канчатковага статуса санаторыя «Беларусь» у Юрмале, амаль адзінага беларускага санаторыя за мяжой. Ці паставіла ваша ўпраўленне апошнюю кропку ў гэтай справе?**

— Санаторый наш, і ніякіх спрэчак тут быць не можа. Аб гэтым сказаў і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвіі ў Беларусі, які днямі быў у мяне на прыёме. Іншая справа, ці зможам мы яго ўтрымліваць далей. У той жа Латвіі пакуль засталіся «жывымі» толькі наш і расійскія санаторыі. Усе астатнія рэспублікі прадалі свае яшчэ два гады назад. Утрыманне санаторыяў — вельмі дарагая рэч, асабліва ў сённяшніх умовах. У Расіі рэнтабельны санаторый прапаноўвае свае паслугі аднаму чалавеку за 65 тысяч рублёў на 24 дні. Ці маем мы права ўстанаўліваць такія цэны? Справа ўскладняецца яшчэ і тым, што ўжо цяпер за дзесяць рублёў даюць у Латвіі толькі 7 латаў, а абяцаюць абменьваць 48 да аднаго!

Амаль тая ж сітуацыя і з нашым другім санаторыем «Місхор» у Сочы.

**— Наколькі мне вядома, у ваша падпарадкаванне, акрамя санаторыяў, уваходзяць і ўсе тры нашы запаведнікі рэспубліканскага значэння. Тут таксама тая ж няпростая сітуацыя?**

— Зусім нядаўна па даручэнню Старшыні Савета Міністраў РБ В. Кебіча пабываў у Злучаных Штатах Амерыкі і прывёз грант на 1 мільён долараў, які выдзеліў нам Сусветны банк развіцця і рэканструкцыі. Гэта не крэдыт, а грошы, якія будуць беззваротна ўкладвацца ў даследчую праграму менавіта трох нашых асноўных запаведнікаў: 800 тысяч долараў пойдзе на Белавежскую пушчу, па 100 тысяч — на Бярэзінскі і Прыпяцкі запаведнікі.

Мы аднымі з першых атрымалі грошы, на якія, безумоўна, была вялікая канкурэнцыя. І на тры з палавінай месяцы раней, чым трэба было, пад кіраўніцтвам А. Максімовіча распрацавалі праект гранта. А ўвогуле над распрацоўкай праграмы, пад якую выдзелены замежныя інвестыцыі, будуць працаваць каля трыццаці нашых інстытутаў. Ствараецца спецыяльнае бюро праекта са спецыялістаў самага высокага класа для кантролю за навуковымі распрацоўкамі. Калі здолеем выканаць пастаўленыя Сусветным банкам развіцця і рэканструкцыі ўмовы — да мая наступнага года справіцца з палавінай тэм, — то нам выдзеляць яшчэ дзесяць мільёнаў долараў.

Ну, а ўжо выдзеленыя грошы, безумоўна, паслужаць добрай падтрымкай для развіцця матэрыяльна - тэхнічнай базы запаведнікаў: закупкі патрэбнага абсталявання, тэхнікі для аналізаў, ды і будучых навуковых праграм, сапраўды ўнікальных і патрэбных. Дарэчы, 100 тысяч долараў ідзе на вывучэнне ўплыву радыяцыі на навакольнае асяроддзе.

**— І ўсё ж доларавыя ўкладанні, напэўна, не здымаюць усіх праблем?**

— А мы гэта выдатна разумеем. Наадварот, узрастае адказнасць за наш нацыянальны гонар. Калі два гады назад у

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## У Вільню, да Зоські Верас

**2 кастрычніка ў Віленскім педуніверсітэце адбылося святкаванне стогадовага юбілею Людвікі Антонаўны Войцік (Зоські Верас) — вядомай беларускай пісьменніцы і грамадскай дзеячкі, якая большую частку свайго жыцця пражыла ў Вільні. Арганізавалі яго і прынялі ўдзел у чытаннях прадстаўнікі Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Скарынаўскага культурна-асветнага цэнтра, Асацыяцыі беларусістаў Літвы, кафедры беларусазнаўства факультэта славістыкі Віленскага педагагічнага ўніверсітэта, беларускіх суполак у Вільні.**

Многія беларускія даследчыкі і пісьменнікі, падобна А. Мальдзісу, даўно, у самыя неспрыяльныя для нацыянальнай працы часы, ведалі, што недзе ў лесе пад Вільняй ёсць невялікая хатка, што ў яе вокнах гарыць агеньчык, што ў хатку гэтую можна зайсці са сваімі клопатамі, праблемамі і атрымаць параду, дапамогу. Той хаткі ў Ніжніх Панарах ужо няма — згарэла вясной 1990-га. А год таму назад памерла і яе гаспадыня Зоська Верас... Неяк не пакідае здзіўленне ад незвычайнага супадзення — стогадовы юбілей і гадавіна смерці...

Але незвычайнай была і сама Зоська Верас, яе лёс, праца. Яе няма, але беларусы па-ранейшаму едуць у Вільню, на яе магілу. Прыехалі на могілкі ў Верхніх Панарах у той дзень і мінскія госці, і віленскія беларусы, і прадстаўнікі літоўскай большасці Вільні — пакланіцца, ускласці кветкі, сказаць колькі добрых слоў пра бабулю Зоську.

У дакладах і ўспамінах Лявона Луцкевіча, Адама Мальдзіса, Алеся Бяляцкага і іншых неаднаразова гучала, што З. Верас заўсёды была вельмі заклапочана лёсам беларушчыны ў Вільні, станам беларуска-літоўскіх нацыянальных адносін, ад якіх і цяпер залежыць лёс беларускай прысутнасці ў старажытнай сталіцы ВКЛ, пераемнасць традыцый і перспектывы. Ішла размова і пра надзённыя справы беларусаў Літвы: аднаўленне Віленскага беларускага музея, экспанаты якога па-ранейшаму захоўваюцца ў розных архівах, экспазіцыях і запасніках іншых музеяў літоўскай сталіцы; стварэнне беларускай гімназіі ў Вільні; абмен літаратурай; пра сітуацыю ў галіне перакладу (апошняя беларуская кніга на літоўскай мове выйшла яшчэ ў 1990 годзе). Старшыня Літоўскай асацыяцыі беларусістаў Альма Лапінскене скардзілася на змену назваў «Літва» на «Летува», «літовец» на «летувіс», што ўкараняюць апошнім часам «ЛіМ» і «Наша ніва», а літоўцы ўспрымаюць як крыўду і непаразуменне. Гучалі таксама заклікі стварыць умовы для нацыянальнага жыцця літоўцаў у Беларусі хоць бы на тым узроўні, якім забяспечаны віленскія беларусы.

Такім чынам, стогадовы юбілей Зоські Верас стаў добрай падставай для сур'ёзнай размовы аб праблемах літоўска-беларускіх адносін, для пошуку ўзаемазбліжэння. **З гэтай нагоды і наша газета прапануе ўвазе чытачоў падборку матэрыялаў па вышэйакрэсленай тэматыцы пад рубрыкай «Сумежжа» на 2-й старонцы «Звязды».**

Валер КАЛІНОЎСКІ.

## Нёман у небяспецы



**180 тон мазуты, выпушчанай былым работнікам аб'яднання «Мастоўдрэў» з нікім не ахоўваемага сховішча, залілі тэрыторыю прадпрыемства і праз ліўневую каналізацыю трапілі ў Нёман. Спачатку пляму спрабавалі лакалізаваць сваімі сіламі. Толькі праз некалькі дзён, калі яна дайшла да Гродна, звярнуліся за дапамогай да ваенных.**

**— Інфармацыя аб здарэнні паступіла да нас у шаснаццаць гадзін, — расказвае камандзір палка пантанёраў палкоўнік Пётр Клішкоў. — А ў дзевятнаццаць ля вёскі Мігава ўжо стаяў пантонны мост.**

**Гэты мост, забіты цюкамі саломы, і стаў фільтрам для мазуты. І яшчэ ў адным пункце дакладна спрацавалі воіны. Быў перакрыты водазабор, з якога паступае шэсцьдзесят працэнтаў вады для патрэб Гродна.**

**А як у гэтай надзвычайнай сітуацыі дзейнічалі грамадзянскія службы? На пераправе знаходзіўся толькі сумуючы вадзіцель асенізатарнай машыны Валерый Занчукоўскі. На работу яго адправілі без бензіну. Давялося ваенным запраўляць яго машыну. А к вечару вадзіцель, махнуўшы на ўсё рукой, сказаў: «Я адзін увесь Нёман не вычарпаю». І паехаў...**

**— Адносіны да здарэння ў мясцовых улад абыякавыя, — сцвярджае палкоўнік Клішкоў. — Сабраць жа мазуту цяпер вельмі складана. Узровень вады ў Нёмане падае, і чорная жыжка асядае на берагах. Ствараецца ўражанне, што гэта мала каго трывожыць. Відаць, нічому не навучыў нас Чарнобыль. Усё спадзяёмся на ўдачу.**

**Між тым у небе над месцам аварыі баражыраваў верталёт з Літвы. Суседзі спалохаліся: іх Нямунас у небяспецы.**

НА ЗДЫМКУ: воіны-пантанёры за работай.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ. (БЕЛІНФАРМ).

